# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 1 (84) Студзень 2014 г.


## 6 ініцыятыўных групаў па вылучэньні кандыдатаў не змаглі зарэгістравацца на Віцебшчыне



Уладзімер Правальскі

Ва ўсіх шасьці выпадках у ахвотных вылучацца кандыдатамі ў дэпутаты былі зафіксаваныя недакладнасьці ў сабраных дакумэнтах. У тым ліку ва **Ўладзімера Правальскага**, колішняга ўдзельніка прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі, якога Цэнтарвыбаркам не зарэгістраваў у якасьці кандыдата, бо частка сабраных за яго подпісаў была прызнаная несапраўднымі.

Цяпер ва Ўладзімера Правальскага, які хацеў стаць кандыдатам у дэпутаты абласнога Савету, таксама паўсталі праблемы з дакумэнтамі. Пра гэта распавёў сябра абласной выбарчай камісіі, кіраўнік абласной арганізацыі партыі левых "Справядлівы сьвет" **Мікалай Селівашка**:

"Уладзімер Правальскі — пакуль адзіны, хто падаў скаргу на тое, што не зарэгістравалі яго ініцыятыўную групу. Ён кажа, што зьвяртаўся да сяброў камісіі, каб пераглядзелі ягоныя дакумэнты і падказалі, калі нешта ня так. І што нібыта ніякіх заўваг да яго не было. Але ініцыятыўную групу не зарэгістравалі менавіта праз недакладнасьці ў сабраных дакумэнтах. Я прапанаваў склікаць пасяджэньне абласной камісіі і ўсё ж зарэгістраваць групу Правальскага — калі яму не далі ніякіх тлумачэньняў. Тым больш, што недакладнасьці там чыста "тэхнічныя", не грунтоўныя. Але камісію з гэтай нагоды склікаць ня сталі".

Пра тое, каб не зарэгістравалі ініцыятыўную групу кагосьці зь іншых дэмакратычных актывістаў на Віцебшчыне, зьвестак няма.

Паводле афіцыйнай інфармацыі з сайту аблваканкаму, на рэгістрацыю ініцыятыўных груп было пададзена 2 362 заявы, зарэгістравана 2 356 груп. Сярод заяўнікаў былі і сябры палітычных партыяў, якія вырашылі ствараць ініцыятыўныя групы і зьбіраць подпісы за сябе, не чакаючы вылучэньня ад партыйных суполак. 42 чалавекі пазначылі сваю партыйную прыналежнасьць, і найбольш масава прадстаўленымі аказаліся партыя левых "Справядлівы сьвет" (11 чалавек), КПБ (10 чалавек), партыя БНФ (9 чалавек).

## Выбары ў Полацку

**На 40 выбарчых акругаў Полацкага раёну камісія зарэгістравала 46 ініцыятыўных групаў па зборы подпісаў за вылучэньне кандыдатаў у дэпутаты. Як звычайна, гэта дырэктары мясцовых арганізацыяў і прадпрыемстваў. Але ёсьць і звычайныя грамадзяне, якія раней не вылучаліся ў дэпутаты. Цяпер ідзе збор подпісаў сярод палачан.**

Як распавяла адна з палачанак, Сьвятлана, якая пажадала стаць дэпутатам Полацкага раённага савету, збольшага грамадзяне без праблем падпісваюцца за вылучэньне яе дэпутатам. Збор подпісаў праходзіць па месцы жыхарства праз абыход кватэр. Сьвятлана ўжо сабрала подпісаў больш, чымся трэба для вылучэньня ў дэпутаты. Але яна ўсё адно зьбіраецца працягваць збор подпісаў, каб абысьці як мага больш дамоў у яе выбарчай акрузе. Сьвятлана займаецца грамадзкай дзейнасьцю зь мінулага году, калі жыхары Полацку актыўна сталі абараняць ад высечкі стары сквэр каля вакзалу. Яна са сваёй сяброўкай нават езьдзіла наконт гэтага пытаньня на сустрэчу з губэрнатарам Аляксандрам Косінцам. Дрэвы ў сквэры грамадзянам удалося адстаяць.

Выбарчая кампанія праходзіць амаль незаўважна для палачан, пікетаў пакуль ніхто ня ладзіў. Але вось у Полацкую выбарчую камісію паступаюць вусныя скаргі ад работнікаў ААТ «Полацак-Шклавалакно». Працоўныя скардзяцца, што на прадпрыемстве прадстаўнікі адміністрацыі падчас працы прапануюць ім падпісацца за вылучэньне кандыдатам дырэктара прадпрыемства Мікалая Качаноўскага. На гэта скардзіліся рабочыя зь сёмага цэху. Падобныя скаргі гучаць і ад работніц ткацкага цэху № 9: іх прымушаюць падпісвацца за начальніцу іхнага цэху Людмілу Грыдзюшка.

# Віцебскія палітыкі распавялі пра свой удзел у мясцовых выбарах

Сярод прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадзкасьці пануе аднадумства: сапраўдных выбараў у краіне няма. Тым ня менш большасьць палітычных партыяў і рухаў заявілі пра свой намер удзельнічаць у выбарах у мясцовыя саветы, якія адбудуцца 23 сакавіка. Вядомыя ў Віцебску апазыцыянэры распавялі пра тое, наўошта яны ўдзельнічаюць у цяперашняй выбарчай кампаніі.



**Кастусь Смолікаў:** «Наконт удзелу ці няўдзелу прадстаўнікоў палітычнай апазыцыі ў выбарах, я адназначна за ўдзел. Трэба паказаць людзям, што ёсьць палітычныя сілы, якія маюць адрозны ад уладаў пункт гледжаньня на разьвіцьцё сытуацыі. Яны маюць людзей, якія будуць выпраўляць гэтую сытуацыю; яны маюць рэсурс, каб хадзіць па кватэрах, удзельнічаць у выбарах, вырабіць нармальную інфармацыйную прадукцыю, пастаяць у пікетах. Удзел — адназначна. Байкот на гэтых выбарах немагчымы з тае простае прычыны, што няма парогу яўкі. Прыйдзе тры выбаршчыкі на ўчастак для галасаваньня — і выбары адбыліся. Лепш заўсёды нешта рабіць, чымся не рабіць нічога».



**Алесь Галавань:** «Я лічу, што мінулыя выбарчыя кампаніі паказалі немэтазгоднасьць удзелу ў выбарах з тактыкай байкоту. Што тычыцца ўдзелу ў цяперашняй выбарчай кампаніі, наш рух *(рух "Маладая Беларусь" — рэд.)* вырашыў прыняць удзел у ёй, каб данесьці свой пункт гледжаньня да людзей, і каб таксама пасправабаваць свае сілы ў фармаце выбарчай актыўнасьці, выбарчай дзейнасьці: нехта паспрабуе сябе ў якасьці кандыдата, нехта паспрабуе сябе як сябра ініцыятыўнай групы...»



**Ірына Яскевіч:** «Я ня першы раз удзельнічаю ў выбарах. І хачу сказаць, што, напэўна ж, некалі настане той час, калі ўсе мы з вамі зразумеем, што мы ўжо рабілі ўсё што можам. Патрэбна нешта рабіць на месцах. Шанцаў на перамогу амаль няма, але ёсьць магчымасьць размаўляць зь людзьмі, чуць іх і рабіць нейкія высновы — і ім, і нам».



**Аляксандар Кузьняцоў:** «Мы ўдзельнічаем у выбарах, таму што мы — палітычная партыя *(партыя БНФ — рэд.)*. Гэта асноўная мэта палітычнай партыі — удзел у выбарах. Мы абавязкова будзем удзельнічаць і здымаць, як апошнім разам, кандыдатуры ня будзем. Спадзяемся на перамогу. Жыве Беларусь!»



**Тацьцяна Севярынец:** «У выбарах БХД удзельнічае дзеля таго, каб вырашыць шэраг мясцовых праблемаў — гэта па-першае. І па-другое — каб пазнаёміць выбаршчыкаў з такой партыяй як "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" і, магчыма, далучыць людзей да нашай дзейнасьці; бо мы ўвесь час праяўляем актыўнасьць, вырашаем шэраг сацыяльных праблемаў, каб нейкія зьмены былі ў нашым грамадзтве для паляпшэньня жыцьця».



**Леанід Аўтухоў:** «Я лічу, што тычыцца мясцовых выбараў, што на сёньняшні момант, улічваючы, якое склалася становішча ў краіне ўвогуле і ў апазыцыйных структурах, — няма сэнсу ўдзельнічаць у гэтай кампаніі. Таму што гэта тыя самыя граблі, на якія наступаем 20 гадоў. Адзінага кандыдата няма. Быў бы адзіны кандыдат — мела б сэнс існаваць. Як мага хутчэй трэба знайсьці, абраць, купіць, зрабіць адзінага і працягваць змаганьне за 2015-ы год».

# У ГАРАДКУ ЗАТРЫМАЛІ АКТЫВІСТА ПАРТЫІ БНФ ЛЕАНІДА АЎТУХОВА



Леанід Аўтухоў

У Гарадоцкім РАУС **Леаніду Аўтухову** паказалі ліст за подпісам "Ананім", дзе гаварылася, што ён рыхтуе ў райцэнтры акцыю пратэсту. Кіраўніка арганізацыі партыі БНФ па Віцебскай вобласьці пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны — пакуль ня зьехала абласное начальства, якое прыяжджала сустракацца зь незадаволенымі мясцовымі прадпрымальнікамі.

Непасрэдна зь візытам прадстаўнікоў Віцебскага аблвыканкаму Леанід Аўтухоў і зьвязвае сваё затрыманьне: **"У нас тут вострая праблема – зачынілі рынак у цэнтры Гарадка, а прадпрымальнікаў выганяюць на стадыён каля тэхнікуму, дзе толькі лужы і бруд. Няма там ані электрычнасьці, ані вады, ані нават плоту. Таму яны ня хочуць туды перабірацца і працаваць па калена ў брудзе. 8 студзеня прадпрымальнікі занесьлі чарговую скаргу ў райвыканкам, бо з пачатку месяца яны ўсе – каля 80 чалавек – фактычна беспрацоўныя. Я размаўляў зь імі каля райвыканкаму. Але яны мне казалі, што ня хочуць, каб да іх праблем прымешвалі нейкую палітыку. І нават прасілі мяне сысьці. Я і сышоў. Але ўжо сёньня, 9 студзеня, паехаў на машыне сустракаць журналістаў, якія зацікавіліся праблемай з рынкам і прадпрымальнікамі. У дарозе мяне спынілі, прычын не патлумачылі, а ўжо ў міліцыі паказалі ліст ад нейкага "Ананіма"**.

Хто яго напісаў, Леанід Аўтухоў ня ведае. Але ня можа выключаць, што да гэтага нейкае дачыненьне маглі мець і самі міліцыянты, бо 9 студзеня ў Гарадку чакалі прадстаўнікоў аблвыканкаму. І супрацоўнікам РАУС не хацелася дадатковых праблем, працягвае спадар Аўтухоў:

**"Мяне цалкам беспадстаўна трымалі ў міліцыі, каб узяць тлумачэньні пра тое, што напісана ў нейкай ананімцы! "Ананімкі" паводле закону наогул не разглядаюцца. І я страціў час і не дапамог людзям, якія разьлічвалі, што я правяду іх па незнаёмым горадзе. Мяне апытвалі паводле артыкулу 23.34 наконт правядзеньня несанкцыянаванай акцыі. Але ж ніякіх акцыяў не было, і нават за намеры ў нас ня судзяць. Хаця, як высьветлілася, тлумачэньні бяруць. А ўсё з-за таго, што ў Гарадку складаецца дужа нэрвовая сытуацыя, зьвязаная з правядзеньнем у нас "Дажынак-2014"**.

Менавіта з-за "Дажынак" і адбыўся канфлікт на рынку. Прадпрымальнікам было заяўлена, што рынак мае непрэзэнтабельны выгляд, і што на ягоным месцы будзе збудаваны новы гандлёвы цэнтар. Аднак ужо стала вядома, што гандлёвы цэнтар будаваць ня будуць — на гэта няма грошай. Толькі і прадпрымальнікам вярнуцца на рынак у цэнтры Гарадка не дазваляюць — загадваюць пераяжджаць на стадыён. Але толькі да вясны. Бо і там пачнецца рэканструкцыя да "Дажынак".

Праз падрыхтоўку да гэтага сьвяткаваньня ўсе жыхары сталі закладнікамі грашовай праблемы: мясцовыя ўлады наабяцалі шмат, але на выкананьне задумак бракуе грошай. У Гарадку нават не адзначылі юбілей раёну ў сьнежні мінулага году — бо на цэнтральнай плошчы ідзе рэканструкцыя, завяршыць якую бракуе сродкаў.

# У Віцебску затрымалі Вольгу Карач і Алега Баршчэўскага

**Вольгу Карач** затрымалі праз некалькі гадзін пасьля адпраўкі адкрытага звароту прэзыдэнту з нагоды ціску на яе сям'ю і месячнага сына. Лідэр грамадзянскай кампаніі «Наш Дом» Вольга Карач пасьпела паведаміць па тэлефоне, што яна і ейны муж, **Алег Баршчэўскі**, галоўны рэдактар «Віцебскага Кур'ера», затрыманыя міліцыяй і іх вязуць у Кастрычніцкі РАУС Віцебску.



Вольга Карач і Алег Баршчэйўскі

Афіцыйная прычына затрыманьня - нібыта фальшывае пасьведчаньне кіроўцы мужа. Аднак ёсьць падазрэньне, што затрыманьне зьвязанае з адкрытым зваротам Вольгі Карач да прэзыдэнта Беларусі напярэдадні пра перасьлед яе месячнага сына Сьвятаслава органамі апекі, сацыяльнай абароны, аддзелу адукацыі і школы. Тым ня менш, замест ДАІ, Вольга Карач і Алег Баршчэўскі былі дастаўленыя ў РАУС.

Пасьведчаньне кіроўцы ўсё часьцей становіцца падставай да затрыманьня кіроўцаў аўтатранспарту.

Праз паўтары гадзіны Вольга паведаміла, што Алега і яе адпусьцілі, але перад гэтым у РАУС запрасілі падатковага інспэктара зь іншага раёну. А з нагоды правоў кіроўцы ўжо нічога не згадвалі.

# Віцебскага праваабаронцу зьбіраюцца дэпартаваць зь Беларусі?

**Пётар Іваноў – вайсковы пэнсіянэр. Мае расейскае грамадзянства і пасьведчаньне на жыхарства ў Рэспубліцы Беларусь. Надоечы ён атрымаў ліст з аддзяленьня па грамадзянству і міграцыі Кастрычніцкага РАУС Віцебску, у якім паведамляецца, што дазвол на яго сталае пражываньне ў Беларусі можа быцьануляваны.**

Пад паведамленьнем, якое атрымаў Пётар Іваноў, стаіць подпіс начальніцы АгіМ Вольгі Мурзы. Начальніца спасылаецца на закон «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь», згодна зь якім іншаземцу можа быцьануляваны дазвол на сталае пражываньне ў Беларусі, калі ён ня мае законнай крыніцы атрыманьня даходаў, які забясьпечвае яму і яго сямейнікам пражытачны мінімум на пэрыяд больш як шасьці месяцаў у каляндарным годзе.

Пётар Іваноў абавязаны падаць у аддзяленьне па грамадзянству і міграцыі дакумэнт, які пацьвярджае, што ён мае, за кошт чаго жыць. «Пры адсутнасьці зьвестак пра наяўнасьць законнай крыніцы атрыманьня даходаў у дачыненьні да Вас будзе распачатая працэдура ануляваньня дазволу на сталае пражываньне ў Рэспубліцы Беларусь», — папярэджвае Пятра Іванова Вольга Мурза.


Пётар Іваноў

**«Свавольства, вядома, зашкальвае! Калі і ў дачыненьні да каго яшчэ з іншаземцаў-расейцаў адсутнасьць пастаяннай крыніцы даходаў зьяўлялася падставай для дэпартацыі?! Тым больш, што я ж яшчэ і беларус, родам адсюль. Тут мае сям'я, дзеці, хатка на вёсцы, магілы продкаў...» – абураны Пётар Іваноў.**

«Крыніца пастаяннага даходу ў мяне — пэнсія», — патлумачыў Пётар Іваноў. Ён упэўнены, што цяперашнія праблемы ўзьніклі ў яго ў выніку яго праваабарончай дзейнасьці: «"Наезд" зьвязаны з пракурорскім папярэджаньнем пра недапушчальнасьць парушэньня заканадаўства Беларусі, "сынхронна" зацьверджаным пракурорам Генадзем Дыско, і судом, дзе я патрабаваў кампэнсацыі за незаконнае затрыманьне мяне і зьмяшчэньне пад вартай у Кастрычніцкім РАУС Віцебску 1 лістапада 2013 году».

# Сяргею Рыжову прысудзілі 15 сутак арышту


Сяргей Рыжоў

**Судзьдзя Першамайскага райсуду Натальля Карабліна прызнала Сяргея Рыжова вінаватым у хуліганстве і непадпарадкаваньні міліцыянтам — супрацоўнікам выцьвярэзьніку 16 лістапада мінулага году. Сам палітык настойвае, што ў выцьвярэзьніку яго зьбівалі, а потым сфабрыкавалі справу пра непадпарадкаваньне.**

Паводле Рыжова, судзьдя не дапусьціла да ўдзелу ў працэсе лекара Ігара Пастнова. Пастноў першым сустрэў Рыжова пасьля падзеяў у выцьвярэзьніку, і быў гатовы пацьвердзіць, што бачыў сьляды катаваньняў. Аднак суд не палічыў мэтазгодным выслухаць гэтыя паказаньні.

«У судзе дэманстраваліся відэазапісы відэакамэр у выцьвярэзьніку. Але толькі 5 асобных фрагмэнтаў і бяз гуку. Фрагмэнты былі падабраныя так, што на іх не было відаць, як мяне зьбіваюць, выкручваюць пальцы, спрабуюць душыць. Цялесныя пашкоджаньні зафіксаваныя мэдыкамі пасьля майго выхаду з выцьвярэзьніку, гэтыя дакумэнты атрымаў і Сьледчы камітэт, які праводзіў праверку маіх скаргаў на дзеяньні міліцыянтаў. Але сьледчыя вызначылі, што супрацоўнікі міліцыі не перавысілі службовых паўнамоцтваў. Судзьдзя адмовіла майму адвакату, які хадайнічаў, каб матэрыялы гэтай праверкі былі далучаныя да судовай справы і агучаныя на працэсе», — распавёў Сяргей Рыжоў.

Пра тое, што яго вінавацяць у хуліганстве і непадпарадкаваньні супрацоўнікам міліцыі, віцебскі стваральнік незарэгістраванай Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі «Белая Русь» даведаўся ўжо пасьля таго, як Сьледчы камітэт распачаў сваю праверку. Рыжоў лічыць, што абвінавачаньні супраць яго — гэта спроба міліцыянтаў апраўдаць факты гвалту і катаваньняў.

Судзьдзя Натальля Карабліна прыняла рашэньне, узяўшы пад увагу паказаньні сьведак — супрацоўнікаў выцьвярэзьніку. За хуліганства яна прысудзіла Сяргею Рыжову 7 сутак, і яшчэ 8 сутак — за непадпарадкаваньне патрабаваньням супрацоўнікам міліцыі.

Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://vitebskspring.org і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.